Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 23 (170) Вільня, Серада 14 Сакавіка 1928 г. Год IV.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Зямля сялянству без выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ: Вільня, Востробрамская вул. № 8, кв. 1. (Wilno, ulica Ostrobramska Nr. 8, m. 1). Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвята. Рэдактар прыймае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу. Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта. — ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ. —

ПАДПІСКА: На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 3 зл., на шэсьць месяцаў — 4 зл., на год — 8 зл. Для заграніцы удвая даражэй. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

## Рэзультаты выбараў.

Асобна падаём цыфравыя даданыя аб рэзультатах выбараў у Сойм, якія адбыліся 4 сакавіка с. г. Бачым там, што Беларусы правялі ў Сойм толькі 9 паслоў. Па сьпіску Блёку Нацыянальных Меншасьцяў прайшло 4 паслы (2—ад Беларускага Сялянскага Саюзу і 2—ад Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі), 3 паслы па сьпіску „Змаганьне за інтарэсы сялян і работнікаў“ і 2 паслы ад г. зв. „Беларусаў сялян і работнікаў“. У прошлы Сойм прайшло беларускіх 11 паслоў. Як бачым, лічбова беларускае парляманцкае прадстаўніцтва зьменшылася. На першы пагляд гэта магло-б сьведчыць аб пэўным зьмяншэньні беларускага палітычнага руху пад Польшчаю і аб аслабленьні беларускай нацыянальнай сьведамасьці сярод шырокіх гушчаў Беларускага Народу, аднак, калі дакладна і падрабязна разгледзім гэтую справу, дык пераканаемся, што рэзультаты апошніх выбараў у Сойм зьяўляюцца доказам таго, што адносна 1922 г. у 1928 годзе Беларускі Народ выявіў шмат больш сьведамасьці і арганізаванасьці і што ён ужо прадстаўляе сабою выразную нацыянальную сілу.

Возьмем выбары ў паасобных округах. У сьвянцянскім выбарным окрузе Беларусы правялі ў Сойм 3-х паслоў, тады калі ў 1922 годзе мелі толькі 2-х паслоў, пры гэтым сьпісак № 18 атрымаў найбольшы лік галасоў. Гэта сьведчыць, што ў 4 пав. Сьвянцян. окр. з вялікім процантам каталіцкага насяленьня беларускі сьпісак атрымаў поўную перамогу, што адначасна зьяўляецца доказам таго, што сярод масаў каталіцкага насяленьня ўжо прышчэплена беларуская сьведамасьць. На'т найбольш спаланізаваны каталіцкасьцю Віленска-Троцкі павет (вылучаючы чыста літоўскія воласьці) даў некалькі тысяч галасоў за сьпісак 18 і такім чынам памагае правесьці ў Віленскім окрузе 1 пасла па сьпіску Блёку Нацыянальных Меншасьцяў.

У Лідзкім окрузе беларуская сьведамасьць і арганізаванасьць праявілася яшчэ выдатней. Ня гледзячы на тое, што тут быў скасаваны наш сьпісак кандыдатаў, па іншаму сьпіску, хоць і неадказваючаму інтарэсам беларускага сялянства, прайшлі 2 Беларусы. Апрача гэтага ў гэтым окрузе прызнаны няважнымі больш 72 тысяч галасоў. Няма ніякага сумліву, што гэта ёсьць беларускія галасы, якія дэманстрацыйна пайшлі на беларускі сьпісак (№ 18). Такім чынам у Лідзкім окрузе больш 100 тысяч галасоў выказалася за беларускіх кандыдатаў; у прошлыя выбары за беларускі сьпісак пала толькі каля 40 тысяч галасоў. Як бачым, беларуская сьведамасьць у Лідзкім, Ашманскім, Валожынскім, Маладэчанскім і Вялейскім пав. узрасла на 250 працэнтаў. Лепшых рэзультатаў за 5 гадоў працы першага беларускага парляманцкага прадстаўніцтва ня трэба на'т і жадаць. Праўда, рэальна выбары ў Лідзкім окрузе не прынясьлі нам карысьці, а на'т пэўную шкоду, бо правялі ў Сойм пасла, які будзе Беларусам толькі шкодзіць, але лік галасоў унявokажненых зьяўляецца доказам таго, што калі-б наш беларускі сьпісак кандыдатаў ня быў скасаваны, дык Беларусы правялі-б у Сойм у гэтым окрузе 5 сваіх паслоў.

Найменшы пасьпех у сэнсе пашырэньня беларускае сьведамасьці выказаў Наваградзкі выбарны округ. Гэта тлумачыцца наступнымі аргументамі. Перадусім, ужо выбары 1922 году выказалі ў гэтым окрузе максімум беларускай сьведамасьці, бо з 6 пасольскіх мандатаў Блёк Нацыянальных Меншасьцяў забраў 4 мандаты. На 1922 год гэта былі неспадзявана добрыя для нас вынікі. Сёлета Беларусы правялі толькі 3-х паслоў, але затое выключна галасамі беларускімі (бяз Жыдоў). Трэба ведаць, што выбары сёлета прайшлі зусім у іншых абставінах, чымся выбары 1922 году. Тады быў толькі адзін беларускі сьпісак блёку, сьпісак „зялёнага дубу“ можна ўважаць за сьпісак небеларускі; сёлета ў Наваградзкім окрузе было нешта аж 5 сьпіскаў кандыдатаў, выступаючых пад беларускім назовам. Калі прыняць пад увагу ўсе галасы, якія пайшлі на беларускія сьпіскі, дык і ў Наваградзкім окрузе атрымаем каля 100 тысяч галасоў, якія выказаліся за беларускае парляманцкае прадстаўніцтва. Польскія партыі атрымалі ў Наваградзкім окрузе мандаты толькі дзякуючы таму, што Беларусы не пайшлі на выбары супольным фронтам, а разьбіліся на некалькі сьпіскаў. Такім чынам, агульны лік галасоў, аддадзеных за беларускія сьпіскі ў Наваградзкім окрузе, таксама сьведчыць, што і тут беларуская сьведамасьць да пэўнай ступені пашырылася, адначасна заражаючыся чужацкімі ўплывамі.

Вось так выглядаюць рэзультаты выбараў у трох чыста беларускіх округах. У іншых округах рэзультаты выбараў больш-менш такія самыя; хоць яны практычнага значэньня ня маюць для нас, бо яны не далі нам пасольскіх мандатаў, затое маюць выразнае маральнае значэньне. На дадатак усіх разважаньняў аб рэзультатах выбараў калі прыпомнім, у якіх абставінах праводзіліся выбары і хто іх праводзіў, дык яшчэ больш стала ясным, што Беларускі Народ вытрымаў выбарны экзамен, бо ня гледзячы на тэрор, які праводзілі агітатары аднаго, усім ведамага сьпіску, астаўся верным беларускім ідэалам. Праўда, ёсьць яшчэ шмат на вёсцы цёмнага элемэнту, якога лёгка падкупіць для агітацыі за чужыя сьпіскі, ці застрашыць, але большасьць выбаршчыкаў нашага краю выразна выказалася за беларускае нацыянальна-радыкальнае парляманцкае прадстаўніцтва. Значэньне польскіх партыяў у Заходняй Беларусі зусім зналела. Польскае „Вызваленьне“ аканчальна правалілася, бо згубіла ўсе свае некалькінаццаць мандатаў: таго самага дачакалася і польская партыя сацыялістычная і польскія эндэкі.

Разважаючы апошнія рэзультаты выбараў з пункту гледжаньня таго ці іншага пасьпеху беларускіх палітычных кірункаў і партыяў, немагчыма сказаць, хто перамог на выбарах. У Сьвянцянскім і Лідзкім округах былі пакасаваны беларускія сьпіскі і затым па рэзультатах выбараў немагчыма судзіць, які палітычны кірунак сярод беларускіх партыяў мае найбольшыя ўплывы. Адно безапэляцыйна можна скантстантаваць (сьцьвердзіць), што ўсе паланафільскія кірункі, як Паўлюкевіча, Умястоўскага і Янкі Станкевіча ня маюць у Заходняй Беларусі ніякага пасьпеху. Гэта сьведчыць, што ўсялякае штучнае тварэньне паланафільскіх груп, бяз рэальных на гэта асноў, будзе заўсёды прызначана на згубу.

Вось як, больш-менш выглядаюць рэзультаты выбараў у Сойм. Хоць практычна, у сэнсе ліку мандатаў не далі яны Беларусам перамогі, аднак выявілі маральную перамогу і сілу і арганізаванасьць беларускіх працоўных мас. Выбары выявілі, што за 5 гадоў зроблена, хоць ня ўсё, аднак вельмі шмат. Беларусы выразна ідуць уперад.

## Выбарная фільма.

**Аб скасаваньні выбараў у Лідзкім окр.**

На аснове арт. 102 і 107 выбарнага закону паўнамоцнік сьпіску № 18 на гэтых днях падае на рукі павадыра Акружной Выбарнай Камісіі № 62 у Лідзе *пратэст* проці выбараў у Лідзкім окрузе. Падставай да пратэсту служыць скасаваньне ў Лідзе сьпіску кандыдатаў № 18 Блёку Нацыянальных Меншасьцяў і каля 73000 галасоў, прызнаных няважнымі, а якія маглі-б зьмяніць рэзультаты выбараў.

Пратэст будзе перасланы ў Найвышэйшы Суд, які можа скасаваць выбары ў Лідзкім окрузе і вызначыць тэрмін новых выбараў у Сойм.

**Як адбываліся выбары.**

Ніжэй зьмяшчаем вельмі характэрную заяву мужоў даверу старшыні абвадовай выбарнай камісіі ў Новай-Мышы, Баранавіцкага павету:

„Да Пана Старшыні Абвадовай Выбарнай Камісіі № 52 ў Новай-Мышы.

Далучаную пры гэтым заяву просім далучыць да пратаколу аб галасаваньні.

З А Я В А.

Ніжэй падпісаныя мужы даверу абводу № 52 у Новай-Мышы складаюць пратэст проці здарэньняў, якія мелі месца пад час галасаваньня ў павышшым абводзе.

А іменна:

1) Сябра выбарнае камісіі п. Язэп Ліцкевіч раздаваў нумаркі ў выбарным памешканьні, і, калі зьвярталіся да п. старшыні з пратэстам у гэтай справе, дык пан старшыня ня выдаў ніякай пастановы.

2) Сябра выбарнае камісіі п. Чукірскі Даніэль з крыёўкі падаў пачку канвэртаў, якія, як выясьнілася былі ўжо з нумаркамі. Канвэрты былі даручаны выбаршчыкам панам старшынёю.

3) Старшыня выбарнае камісіі Кандэратчык выдаліў з выбарнага памешканьня мужа даверу ад сьпіску № 2 Валер'яна Ката не тасуючыся да артыкулу № 65 выбарнага закону.

Падпісалі мужы даверу ад:
№ 2—Міхал Тэрэшкоўскі, № 36—Шлёма Бакштанскі, № 18 — Я. Жукоўскі,
№ 10—подпіс не разборчывы
№ 37— „ „ „
№ 20— „ „ „

**Вынікі выбараў да Сойму 4 сакавіка.**

**Віленскі вокруг № 63.**

Места ВІЛЬНЯ.

| | |
|---|---|
| Меўшых права галасаваць | 108,444 |
| Галасавала | 72,309 |
| Унявaжнена | 154 гал. |

**Віленска-Троцкі павет.**

| | |
|---|---|
| Меўшых права галасаваць | 93,296 |
| Галасавала | 63,510 |
| Уняважнена | 3,603 |

№ 1. Блёк Супрацоўніцтва з Урадам 41,320 гал.—2 мандаты.

№ 2. P. P. S. — 16,697 гал., без мандату.

№ 3. Вызваленьне 25,864 — 1 мандат.

**№ 18. Блёк Нац. Менш. — 1 мандат.**

№ 24. Эндэкі — 20,033 — 1 мандат.

Разам. . 5 мандатаў.

**Сьвянцянскі вокруг № 64.**

6 мандатаў.

№ 1. — 37,589 гал. — 2 м. (Рачкевіч і Брокоўскі).

№ 2.—20,112 — 1 м. (Плаўскі).

**№ 18. — 55,569 — 3 манд. (белар. Каруза, Стэповіч, Юхневіч).**

**Лідзкі вокруг № 62.**

7 мандатаў.

№ 1. — 61, 121 гал. — 4 мандаты.

№ 25. — 17,600 — 1 мандат.

№ 39. — 33,934 — 2 м. — (беларусы—Я. Станкевіч і Ф. Валынец).

Гэтыя апошнія кандыдаты прайшлі ў Сойм толькі дзеля таго, што сьпісак Блёку Нац. Меншасьцяў быў скасаваны.

Па Лідзкаму Выбарнаму Округу было ўневажняна 72,600 галасоў, з якіх пераважнаю большасьцю былі галасы, аддадзеныя за № 18.

**Наваградзкі вокруг № 61.**

6 мандатаў.

№ 1— 53,933 г. — 3 мандаты.

№ 39 — (бел. А. Стогановіч, К. Савонь, І. Дварчанін).

**Горадзенскі вокруг № 6.**

4 мандаты.

№ 1.—50,371 — 3 мандаты.

№ 25.—24923 — 1 мандат.

№ 13.— Еднасьць работнікаў і хлопаў — 16376 гал, без мандату.

№ 18.— Блёк Нац. Меншасьцяў — 12,534 гал., без мандату.

№ 36. — Беларускага Сялянска-Работніцкага Аб'яднаньня — 322 гал.

**Беластоцкі вокруг № 5.**

5 мандатаў.

№ 1. — 45.431 — 2 мандаты.
№ 18. — 81,151 — 1 „
№ 25. — 43,910 — 1 „
№ 39. — 18,209 — 1 „

№ 43 — Беларускі Сялянска-Работніцкі Аб'яднаны Камітэт — 15,899 гал. без мандату.

### „Прывітаньне“ афганскага караля ў Бэрліне.

Ужо некалькі тыдняў, як афганскі кароль з сваёю жонкаю раз'яжджае па Эўропе. Урады розных дзяржаваў робяць каралю ўрачыстыя спатканьні, а ён раздае свае нагароды і ордэны.

Апошнім тыднем афганскі кароль гасьціў у Бэрліне. У той час, пішуць газэты, калі адбываліся ўрачыстасьці на чэсьць караля, нямецкія камуністыя ўстроілі вялікаму гасьцю сваю дэманстрацыю. Маніфэстанты нясьлі плякат з напісам: „Далоў караля! Няхай ён навучыцца працаваць“.

Кароль прыемна ўсьміхаўся камуністым і вітаў іх. Паліцыя-ж аднака разагнала дэманстрацыю.

### Вайна вагабітаў з ангельцамі.

Арабскае племя, вагабіты, ўварваліся ў Трансіорданію (ангельская калёнія ў мал. Азіі) і асадзілі места Маан. Шасьцітысячны атрад вагабітаў ідзе паходам на ме та Шайбу—апорны пункт ангельскіх ваенных сілаў у Іраку (г. наз. частка калёніі). Ангельскія ваенныя ўлады пасылаюць браніраваныя аўтамабілі і аэрапляны для адбою захопленых вагабітамі мясцовасьцяў. Ня толькі ў Трансіорданіі, але і на ўсей Іракскай граніцы сільныя атрады вагабітаў нападаюць на землі, якія знаходзяцца пад ангельскім панаваньнем.

### Рэвалюцыя ў Венецуэле.

Як пішуць замежныя газэты, ў сталіцы Венецуэлы—Каракасе (Паўдзённая Амэрыка) вынiклі сур'ёзныя беспарадкі проціў цяперашняга прэзыдэнта ген. Гомэца. На чале паўстанчаскага руху стаяць студэнты. Студэнты устроілі дэманстрацыю проціў інтэрвэнцыі Злучаных Штатаў у Нікарагуа і проціў іх імкненьня захапіць нафту ў Венецуэле. У выніку гэтага ўзьнікла крывавая сутычка з паліцыяй, пры чым было забіта 30 студэнтаў і 6 паліцэйскіх. Лік раненых дасягае некалькіх сотняў.

### РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

— Сутычка між нікарагуанскімі вайскамі ген. Сандзіно і матросамі Злучаных Штатаў Паўноч. Амэрыкі закончылася перамогаю нікарагуанцаў.

— 5 сакавіка ў Жэнэве распачалася 49 сэсія Лігі Нацыяў.

— 5 сакавіка ў швэдзкай папяровай прамысловасьці распачаўся лёкаут. Агулам звольнена 57.000 работнікаў.

— Швайцарская Нацыянальная Рада 144 галасамі проці 38 адхіліла ўвядзеньне ў швайцарскай рэспубліцы сьмяротнае казьні.

— У Эгіпце адбываюцца дэманстрацыі, варожыя ангельцам. Ангельскі ўрад выслаў эгіпецкаму ўраду вострую ноту, якая можа прычыніцца да сур'ёзных вынікаў.

# Працэс „Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады“.

(Паводле вестак польскай прэсы).

(*Пятыя дзень працэсу—28 лютага*).

### Дапрос пракурорскіх сьведкаў.

Перад распачацьцем паседжаньня Суд абвесьціў рэзалюцыю адносна прыняцьця дадатковых сьведкаў, аб чым старалася абарона. Суд пастанавіў паклікаць толькі тых сьведкаў, паказаньні якіх маюць істотнае значэньне для справы, між інш. Тугута і Касмоўскую. Пачынаецца дапрос сьведкаў. Першым дае паказаньні былы начальнік Акружнага Сьледчага Ўраду ў Беластоку —

**Ясінскі Мар'ян.** Ён гавора, што пасьля арыштаваньня Ц.К.К. у Беластоку, стварылася новая „пяцёрка“ ў Вільні з Тарашкевіча, Цьветкова, Каплана, Бабровіча і Марцінчыка. У гэтым часе быў арыштаваны Міхал Гурын, каторы пажадаў даць рэвалюцыйныя інфармацыі. Пракуратура паслала ў вастрог яго, Ясінскага, катораму Гурын выясьніў:

Пасьля II зьезду камуністычнае партыі ў Маскве пастаноўлена выкарыстаць нацыянальныя меншасьці ў Польшчы для масавай працы. Бачачы, што сялянства неахвотна адносіцца да канспірацыйнай працы, пастаноўлена стварыць легальныя партыі, як: NPCh, Б. С.-Р. Г. і PPS-лявіца, у каторых кіраўніцтва занялі-б людзі верныя Комінтэрну. На канфэрэнцыі ў Данцыгу высунута Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Мятлу і Валошына для працы ў „Грамадзе“, якія забавязаліся вясьці працу згодна інструкцыяў з Масквы і не перашкаджаць NPCh. Астроўскі быў лучнікам з “Крэстінтэрнам“ і атрымліваў для Банку грошы ад Баліна ці Ульянава. Валошын быў кіраўніком дзейнасьці МОПР-у.

Характарызуючы асобных дзеячоў Ясінскі адзначыў, што на мітынгах Валошын гаварыў падбураючыя мовы проціў ураду Пілсудзкага. „Права трэба браць самым, а не чакаць“ — заклікаў Валошын. У Лунне пад уплывам агітацыі пробавана разаружаць паліцыю. У гэтай працы бралі ўдзел: Міхайлоўскі, Рагуля, Балін і Сабалеўскі. Тарашкевіч кіраваў усім рухам.

Прак. **Раўзэ.** — У якім характары ўвайшоў Тарашкевіч у К. П. З. Б.?

**Ясінскі.** — Як даверавая асоба Камінтэрну.

Адв. **Сьмяроўскі.** — Гэтыя весткі атрымаў сьведка ад Гурына, ці сам здабыў?

**Ясінскі.** — Гурын іх даў, а я потым спраўдзіў праз сваіх людзей.

Адв. **Эттынгер** пытае, што было прычынаю рэваляцыйных паказаньняў Гурына.

**Ясінскі.** — Прысланы Камінтэрнам, як душа ўсёй працы, Гурын разачараваўся, пазнаўшы бліжэй адносіны.

Адв. **Абрамовіч.** — Ці была арганічная сувязь між NPCh і „Грамадою“?

**Ясінскі.** — Але. На канфэрэнцыі ў Вільні Тарашкевіч рабіў закіды Рагулі, што ён вельмі выразна вядзе камуністычную працу.

Абвінавачаныя Тарашкевіч, Астроўскі і Рак-Міхайлоўскі даюць некалькі пытаньняў, у адказе на якія Ясінскі кінуў у бок лаваў абвінавачаных: „Гурын мне казаў, што да Стаўпецкага нападу Камінтэрн прылажыў руку“.

Па чарзе дае паказаньні сьведка —

**Патрэба.** Падцьвярджае, што пісаў пісьмо свайму брату ў СССР, у якім гаварыў аб „белым тэроры“ ў Польшчы, дзякуючы якому на яго наложана адміністрацыйная кара ў 500 зл. за ўдзел у нелягальным сабраньні. Патрэба просіць брата прыслаць гэтую суму грошай і зварочваецца да „ўсіх таварышоў СССР“, якія павінны памагчы, каб „ня згінуў у фашыстоўскім вастрозе“.

У бегу паказаньняў Патрэбы прак. Калапскі заявіў, што Патрэба ўжо мае справу па 102 арт. К. К.

Наступны сьведка **Дук** паказаў, што чуў як Нікіфароўскі заклікаў уступаць у „Грамаду“, пры гэтым гаварыў, што злучэньне з Савецкаю Беларусьсю будзе карысным для ўсіх. Брацьця Шульгі насілі ў СССР нейкія пачкі.

**Васілеўскі**, аьспірант палітычнай паліцыі, падцьвярджае агулам паказаньні Ясінскага. Падрабязна гаворыць аб узьнікнавеньні „Грамады“ на абшарах Вільні і яе дзейнасьці. Сцьвярджае кантакт „Грамады“ з ППС-лявіца, на чале якой стаялі камуністыя. Лучнікам тут быў Акінчыц. Васілеўскі сцьвярджае, што „Грамада“ зьвярнула вялікую ўвагу на пашырэньне прэсы. На гэтую мэту выдана, па яго аблічэньнях, 190 тысяч злотых. Прэсаю кіраваў Луцкевіч, над якім чуваў цэнзар ад Камінтэрну. Першым цэнзарам быў Лагіновіч, потым: Гурын, Бабровіч, Цьветкоў. Агульнае кіраўніцтва прэсаю было ў руках „калегіі“—Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі і Луцкевіч. У Віленскай Беларускай Гімназіі зарганізавалася камуністычная „ячэйка“ пад апекаю Астроўскага. Для Беларускага Банку субсыдыі давалі Саветы.

Далейшы працяг паказаньняў Васілеўскага адлож. на 6-ты дзень працэсу.

(*Шосты дзень працэсу—29 лютага*).

Шосты дзень працэсу пачаўся з таго, што старшыня Суду паказаў сьведку **Патрэбе** пісьмо, пісанае ім свайму брату ў СССР. Патрэба прызнаў гэтае пісьмо.

Дапрашываецца далей сьведка **Васілеўскі**, каторы выясьняе, што Акінчыц быў арыштаваны ня ў часе ліквідацыі „Грамады“ а ў сьнежані 1926 г., калі ён браў удзел у дэманстрацыях, арганізаваных „Грамадою“ і Камсамолам.

На пытаньні прак. Калапскага сьведка адказвае, што выдаўцом „Маланкі“ быў Беларускі Інстытут Культуры ў Менску, грамадоўскаю-ж работаю ў унівэрсытэце Стэфана Баторага кіравалі М. Шавялянка і В. Макоўскі. У далейшым працягу сваіх паказаньняў Васілеўскі гаворыць аб руху мэтадыстых у Вільні. Мэтадыстыя памагалі Беларускай Гімназіі ў Вільні і давалі субсыдыі гімназіі ў Радашкавічах. Луцкевіч, Астроўскі і Коўш згадзіліся зрабіць пераклад бібліі на беларускую мову. Адказваючы на пытаньні пракурора Раўзэ, сьведка выясьняе, што Коўш згадзіўся тлумачыць біблію жаданьнем заработку, бо дзеля гэтага-ж ён быў і бугальтарам у Банку; Коўш купіў сабе дом за 750 даляраў і ўлажыў у рамонт яго 250 даляраў; Коўш мае справу ў Горадзенскім Акружным Судзе за падбураньне жыхарства.

**Коўш** пытаецца: Якая розьніца паміж бібліяй, прызначанай для праваслаўнага, каталіка і мэтадыстага?

Старшыня Суду адхіляе гэтае пытаньне.

Адв. **Гонігвіль** пытае ў сьведкі: Адкуль сьведка ведаў аб кантакце Акінчыца з кіраўніком ППС-лявіцы Алейнічаком?

**Васілеўскі** адказвае: Над імі цягнулася абсэрвацыя праз цэлыя 24 гады.

Адв. **Гонігвіль.** — Адкуль вы маеце інфармацыі аб субсыдыях К. П. З. Б. для Банку?

**Васілеўскі.** — Аб гэтым казаў мне Гурын, апрача гэтага я меў канфідэнцыйныя дадзеныя з АК-КПЗБ у Вільні.

Адв. **Гонігвіль.** — Дык вы мелі свайго чалавека ў АК-КПЗБ?

**Васілеўскі.** — На гэтае пытаньне не адкажу.

Гонігвіль просіць запратаколіць пытаньне і адказ.

Прак. **Раўзэ.** — Што вы ведаеце аб дзейнасьці Луцкевіча ў часе нямецкай акупацыі?

**Васілеўскі.**— Падтрымліваў ён кантакт з вывядоўчым аддзелам нямецкага генеральнага штабу.

**Луцкевіч.** — Адкуль ведама, што я быў у кантакце з контр-разьведкаю нямецкага генеральнага штабу?

**Васілеўскі.** — Гэта рэчы агульна ведамыя, а ў „Дзярж. Архіве“ ёсьць дакуманты, што вы бралі ад Немцаў грошы.

Уводзіцца чарговы сьведка **Францішак Глушын**, які ўжо асуджаны на 3 гады цяжкага вастрогу па 129 арт. К. К. На сьледзтве Глушын паказаў, што Мятла дaручыў яму зарганізаваць склад аружжа; на сваім судзе паказаў, што ён—канфідэнт паліцыі. Цяпер-жа ад усяго гэтага адмаўляецца. Старшыня Суду падцьвярджае паказаньні Глушына, на яго асабістым судовым працэсе. Глушын будзе сканфрантованы з камісарам Кубарскім і паліцыянтам Здановічам. Сьведку выводзяць.

Наступным дапрашваўся пры зачыненых дзьвярох маёр **Мэйер**, кіраўнік экспазытуры II аддзелу генеральнага штабу.

Тры разы хрысьціцца, ўздыхае,
Тады ўжо шапку накідае
І ставіць вуды ўсе ў парадак.
— Ну, што? наеліся аладак? —
Жартуе дзядзька тут з малымі
Ды йдзе ўжо ў хату разам з імі.
Яны, замест таго адказу,
Бубняць па пузу для паказу.
— Эх, брат Алесь! — гаворыць [дзядзька: —
Вось быў шчупак — усім ім бацька!
І век такога не забуду,
Але парваў мне, падла, вуду.
І падчапіў быў, нават, спраўна.
„Ну“, думаю: „пажыва слаўна!“
Цягну, а ён аж гне вудзільна,
Ну, чуць ня вырве яго з рук!
А тоўсты, падла, бы япрук,
І доўгі-ж, доўгі, як цапільна.
Шчупак, брат, ёмкі: на паўпуда.
Але сарваўся. Ах, паскуда!
І натаміў, як мае быць;
І пастка ўжо з вады тырчыць,
Як зьмей, варочае зянкамі,
Ну, вось ён, вось! хватай рукамі!
А потым, брат, калі рвануўся —
Ўсё к чорту: вуда і кручок.
Пашоў гуляць мой шчупачок,
А я, брат, толькі аблізнуўся.
— Ах, вось шкода! З кручком [і з дротам?
Дык ён-жа здохне! — Ну, чаго там!
Шчупак — жывучая, брат, юха!
Такі жывучы — дзяржы вуха!
Ен пяць кручкоў глыне — й ня знайся;
Ты ў Янчура пра іх спытайся:
Янчур іх лужа, як арэхі,
Іх знае прожары-прарэхі.
А мне ўсяе, брат, тэй уцехі,
Што падчаплю зноў юху тую,
Тады, брат, дуткі: ня спудлую! —
Ўжо сьнедаць час, і поўдзень скора,
Ды з гэтым бацькам адно гора!

Як пойдзе ён у лес той зраньня,
Як у вадзе цукер растане:
Няма й няма, чакаць абрыдне.
Якога выхадзіш там злыдня?
Ці надта выслужышся ў пана?
Усё роўна знойдзецца загана,
Як ты ні падай, ні гасай,
Не пападзеш да пана ў рай
З сваёй патрэбай, інтарэсам.
А лес, як быў, то й будзе лесам,
Дык і дарэмна ўся турбота —
Бяда з ім проста і згрызота!
Няма яму нядзелькі, сьвята —
Ідзе ды йдзе ён, як закляты;
У шчэпку высах з тэй хады,
Ад сну адбіўся, ад яды.
І хто ўжо служыць гэтак дбала?
Антось і маці на Міхала
Ня раз у злосьці нападалі,
Але таго яны ня зналі,
Як лёгка хлеб той дастаецца.
Ня сьцерпіць, часам, адсячэцца
Міхал ад гэтакіх нападак:
Які-ж-бы толк быў і парадак,
Каб ён служыў, опусьціўшы рукі?
Свае-ж сябры — майстры на штукі:
Так удадуць і так падкусяць —
Цягнуцца нехаця прымусяць.
А вось папробуй на цікавасьць
Стрымай службовую рухавасьць,
Служы, опусьціўшы рукавы,
І выкінь службу з галавы —
Такія ў лесе выйдуць справы —
Пажар, парубкі і патравы —
Не акараскацца ад ліха.
А хочаш ты, каб было ціха,
На чым сядзіш, таго глядзі ты! —
Казаў Міхал ня раз сярдзіта. —
Маўчы, калі ёсьць хлеб у роце!
І што сказаць на гэта проці?
А бацька з стрэльбай за плячамі
Ішоў да дому хвайнякамі,
Ішоў паволі, не сьпяшаўся,
Часамі, стаўшы, азіраўся
І прыслухоўваўся да зыкаў
Ляснога шуму, яго крыкаў
Ды нюхаў дух той, поўны вару:
Такая суш — крый Бог пажару!
Скрозь лапкі хвоек і галінкі
Сінела неба гладзь. Хмурынкі
Сталі грудкамі на ўсходзе.
Было так ціха ўсё ў прыродзе!
Угары над хвойнікам зялёным
Снуюцца пчолы з ціхім звонам,
Кузуркі розныя і мушкі
Свае спраўляюць гулі-гушкі
І так танюсенька гудуць,
Што ледзьве-ледзьве можна ўчуць.
А на прагалінках на голых
Гуляньне конікаў вясёлых,
І толькі ступіш там нагою —
Так і заскачуць прад табою,
Вось так і пырскнуць у надзем'е,
Як-бы сявец той сыпне сем'е.
А матылькі сваім убраньнем
Касуюць тут усіх да званьня
І не лятаюць — танцы правяць,
Ну, каго хочаш, зацікавяць.
А як прыгожы пуцявінкі
Ў шаўкох зялёнае травінкі!
Якія мяккія іх рысы
І павароткі іх, абрысы!
Ідуць, зьвіваюцца, лучацца...
Эх, слаўна ў лесе, слаўна, братцы!
Памалу, мерна, крок за крокам
Ў сваім раздумьмі адзінокім
Дадыбаў бацька скора к дому.
Зачуўшы татаў ход знаёмы,
Малыя з хаты высыпалі,
За брамай бацьку сустракалі.

(Далей будзе).

# НАВІНЫ.

— **Яшчэ „ліквідацыя камуністых“ у Наваградку.** Як піша „Kur. Wilen“. № 54 ад дня 6 сакавіка с. г., ліквідацыйная акцыя камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, распачатая ў мінулым тыдні, закончана ў Слонімскім і Стаўпецкім паветах.

У Стаўпецкім павеце арыштавана агулам 27 асобаў. Між іншымі арыштаваны: Алена Лябецка, сэкрэтарка акружнай управы Т-ва Белар. Школы; Міхал Бігер, былы старшыня акружнай управы „Грамады“; Павал Крынчук і Аляксей Баль — абодва дзеячы б. „Грамады“. У паветах Лідзкім і Наваградзкім арыштаваны: Ўладзімер Грыц, Антанюк Мальц і Анастазы Аляшкевіч—усе, быццам, сябры „КПЗБ“. і „Грамады“.

Усяго ўжо арыштавана 200 асобаў.

— **Дэманстрацыя безработных у Вільні.** 2 сакавіка каля 150 безработных, пераважна кабет, з прычыны таго, што магістрат ня выдаў дапамогаў, паходам падышлі да будынку ваяводзкага ўраду.

Ад імя безработных выслана была дэлегацыя, якую прыняў начальнік грамадзянскай апекі. Астаўшыхся-ж на вуліцы дэманстрантаў конная паліцыя разагнала. Прынамсі гэтак выясьнілі справу віленскія польскія газэты.

— **Працэс Грамады.** 12 г. сакавіка распачаўся судовы разгляд справы Грамады, пасьля некалькідзённага перарыву, які, як пішуць польскія газэты, адбыўся з прычыны выбараў у Сойм і Сэнат.

## Крыху аб патугах адраджэньня незалежнай Літвы.

Літоўскі Народ даўно лятуцеў аб сваёй незалежнасьці, але думка аб гэтым глушылася тымі, хто стараўся, каб „Единая неделімая“ была цэлаю. І толькі тады, калі ў „Единой неделімой“ вынік агульна-народны гнеў проціў Самадзержца і яго памоцнікаў — лепшыя сыны літоўскага грамадзянства на вялікім Віленскім Сойме 4 сьнежня 1905 году адкрыта зажадалі аўтаноміі для Літвы.

Наступіўшая ўсьлед за гэтым рэакцыя заглушыла гэтае праўнае дамаганьне, але працу над нацыянальным усьведамленьнем Ліцьвіноў яна не магла збароць.

Калі, ўвыніку пераменных лёсаў сусьветнай вайны, Літву захапіла Нямеччына — рух Літоўскіх патрыётаў ізноў набірае значнай сілы, высоўваючы патрэбу зьездаў для абгаварэньня агульных справаў, зьвязаных з думкаю аб аўтаноміі Літвы.

Зьезды гэтыя не маглі адбывацца ў Літве, дзе панавалі „імпэратарскія ваенныя законы Вільгэльма II“, іх трэ' было выносіць недзе за межы свайго краю. І вось, 3—4 жніўня 1915 г. адбываецца першы такі зьезд — літоўская канфэрэнцыя ў Бэрне (Швайцарыя), у сакавіку 1916 году — другая, а цераз месяц і трэцяя — на гэты раз у Гаазе. У міжчасе гэтых зьездаў у Вільні ўзьнікае Нацыянальны Камітэт на чале з вядомым літоўскім патрыётам, д-рам Басановічам, а літоўскія дэпутаты ў Расейскай Дзяржаўнай Думе робяць усё магчымае, каб дапамагчы абвесьціць аўтаномію Літвы.

Расейская сакавіковая рэвалюцыя 1927 году ў літоўскую нацыянальную думку ўнясла новы кірунак, а іменна: трэбаваньне ўваскрашэньня незалежнай Літоўскай дзяржавы. У Вільні адбываецца зьезд 214 дэлегатаў са ўсіх кутоў Літвы пад старшынствам Сьметоны. Зьезд прымае рэзалюцыю — прызнаць незалежнасьць этнаграфічнай Літвы на падставах дэмакратызму, і выбірае Тарыбу (Раду), у склад якой увайшло 20 асобаў. Рэзалюцыя Зьезду ўсімі Ліцьвінамі, як у краю, так і за межамі яго, была прынята з вялікім захопленьнем. Усюды адбываюцца сабраньні і зьезды і ўсюды выносіцца давер літоўскай Тарыбе і трэбаваньне незалежнасьці Літвы. Пад уплывам гэтага, ня гледзячы на нямецкую акупацыю, Тарыба хутка робіць паважны крок... **16 лютага 1918 году абвяшчае незалежнасьць Літоўскай дзяржавы.**

Аднак-жа хутка гэты крок напаткаўся на паважныя перашкоды.

Ужо 21 лютага нямецкі рэйхсканцлер (першы міністар) паведаміў Тарыбу, што нямецкі імпэратар адмаўляецца прызнаць незалежнасьць Літвы. Тарыба пасылае ў Бэрлін дэлегацыю з мэтаю дабіцца ад нямецкага ўраду прызнаньня незалежнасьці. І вось, 23 сакавіка 1918 году Вільгэльм II згадзіўся на гэта, але пад варункам, каб незалежная Літва была ў саюзе з Нямеччынаю на грунце вайсковых спраў, мытных зносінаў і агульнасьці манэты.

Ня гледзячы на гэта, нямецкія „палітычныя колы“ не маглі згадзіцца з пастановаю свайго кайзэра і з тым каб саюзная Нямеччыне Літва была без манарха. Саксонскія „палітычныя колы“ нават цьвёрда стаялі на тым, каб далучыць Літву да Саксоніі, як якую калёнію, ці правінцыю.

Бачачы і чуючы гэта, Тарыба аб'явіла Літву канстытуцыйнаю манархіяю і 4 чэрвеня 1918 г. пастанавіла ахвяраваць літоўскую карону Віртэмбэрскаму графу, Вільгэльму фон Ураху. Гэты крок Тарыба абварункавала, між іншым тым, каб кароль прыняў імя Міндаўга II, форма дзяржавы-дэмакратычная манархія з канстытуцыяю і двухпалатным парлямантам, літоўская мова, ня толькі дзяржаўная але і прыватная ў каралеўскіх палацах (бо-ж каралём меўся быць немец, які, рэч зразумелая, прыехаў бы з сваёю нямецкаю сьвітаю).

Гэтая пастанова была не адзінадушная, дык раскалола Тарыбу. Левае крыло вышла з яе складу. Пачаліся непаразуменьні, якія былі прычынаю таго што 2 лістапада 1918 году Тарыба адмяніла сваю пастанову аб запрашэньні Ураха на літоўскі трон, бо гэтую справу павінен вырашыць устаўадаўчы сойм.

Тым часам вынікла нямецкая рэвалюцыя. Акупанты пакінулі Літву і Тарыба 11 лістапада 1918 году дstation даручае Вальдэмарасу стварыць першы габінэт незалежнай Літвы. Прэм'ерам у першым габінэце астаўся Вальдэмарас (цяперашні дыктатар).

Вось у кароткім нарысе гісторыя тых крокаў, якімі ішла Літва да часу нараджэньня свайго першага нацыянальнага габінэту, які пачаў рэпрэзэнтаваць Незалежную Дзяржаву.

## Гаспадарскі аддзел.

### Як ужываць фабрыч. гнаі — парашкі.

#### I. Чылійская салетра.

**Колькі трэба даваць на дзесяціну пад усялякія расьліны?**

Пад збожжа каласавое—ад 6 да 10 пудоў; пад бульбу і буракі—ад 6 да 12 пудоў на дзесяціну. Стручковыя і ўсялякія канюшыны абходзяцца без салетры, але ўсё-ж такі, пакуль яны маладзенькія і яшчэ без нарастаў на карэньчыках—можна даць 2—4 пуды на дзесяціну, што ўсіліць іх рост і на пасьля.

**На якую зямлю ўжываць?**

Салетра памагае добра на ўсякай зямлі, апрача надта мокрых, халодных і глеяватых. Разам са звычайным гноем яе ніколі ня варта даваць.

**У якім часе даваць салетру пад азімыя пасевы?**

Пад азімыя пасевы пасыпаюць салетру ў восень і на вясну, па палавіне ўсяго назначанага; сыпаць трэба ў сухую пагоду. Баранаваць ня трэба, бо яна сама ад вільгаці лёгка распушчаецца і ўцягваецца ў зямлю.

**Пад ярыну, бульбу і буракі?**

Порцыю салетры, назначаную пад ярыну і карэньплоды, трэба разьдзяліць на дзьве часьці; першую часьць—рассыпаць, як толькі расьліны паўсходзяць, а другую — пачакаўшы 7—10 дзён; на карэньплоды—перад абсыпаньнем іх.

**Як прыгатаваць салетру да пасеву?**

Каб усюды роўна расьсеяць салетру, трэба грудкі яе паразьбіваць і перамяшаць з сухім торфам, пілавінамі, ці з пяском. Няможна яе расьсяваць пасьля дажджу, на сырую зямлю, ні па расе; памятуючы, што яна, як толькі пападзе на мокрыя пёркі расьлін—прагрызае іх.

#### II. Каініт.

**На якую зямлю ўжываць?**

На лёгкую пясчаную зямлю і на сухія сенакосы. На глiністай зямлі каініт трэба замяніць на патасовую (калійную) соль у 30%.

**Пад якія расьліны?**

Каініт ужываецца найбольш на сенакосы, а на пясчаных землях—пад азіміну і ярыну.

**Колькі даваць на дзесяціну пад усялякую расьліну?**

На сенакосы і пад азімыя пасевы з канюшынай — 24—30 пудоў; пад ярыну, гарох, віку, лубін — па 18—30 пудоў на дзесяціну.

**У якім часе і як расьсяваць?**

Каініт найляпей сеяць за 2—3 тыдні перад сяўбой, а пад ярыну — найлепш у восень. На сенакосы — таксама ў восень — разам з тамасоўкай. Бэранаваць цяжкай бараной, ці драпачом. Мяшаць з тамасоўкай можна толькі перад высевам.

#### III. Соль патасовая 30%.

**На якую зямлю?**

Соль гэта памагае таксама, як і каініт, толькі яна мае ў $2^1/_2$ разы больш паташу (калі), дык перасылка яе танейабыходзіцца, чым каініту. Ужывайма яе на землі лёгкія пясчаныя, гліністa-пясчаныя і гліністыя, а побач — на сухія сенакосы.

**Пад якія расьліны?**

Соль патасовая памагае на ўсе аднагодныя расьліны і сенакосы, а найлепш адплачывае яна, расьсеяўшы пад бульбу, асабліва, калі даецца разам з гноем, бо ў самым гнаі заўсёды недахват паташу на вялікшы ўраджай бульбы.

**Колькі даваць на дзесяціну, пад якую расьліну?**

На лёгкай зямлі пад ярыну, азіміны і пад стручковыя — па 6—12 пудоў, а на цяжкай — па 6—10 п.; пад бульбу бяз гною — па 12 пудоў, а на гнаі — па 8—10 пудоў на дзесяціну.

**У якім часе і як расьсяваць?**

Рассыпаць за некалькі дзён перад сяўбой збожжа, ці да пасадкі бульбы, або ў восень. Забаранаваць бараной, ці драпачом. Пад азімыя, ярыну і бульбу на прыгараным лубіне, патасовую соль даюць пад лубін разам з фосфарнымі парашкамі (супэрфасфатам, ці тамасоўкай). З тамасоўкай можна мяшаць толькі перад самым высевам, бо лежачы разам — камянеюць. Каб рассыпаць роўна, трэба перамяшаць, як і салетру, з пяском і др.

#### IV. Тамасоўка.

**На якую зямлю?**

Найлепша яна на зямлі пясчанай, пясчана-гліністай, а так-жа на халодным глею дзе няма вапны, ды на чарназёме. Надта добры сьлед па ёй астаецца на тарфістых і сухіх сенакосах і лугох.

**Пад якія расьліны?**

На вышэй паказаных землях — пад усялякія расьліны і на сенакосы. А найлепш пад азімыя, ярыну з канюшынай і стручковыя.

**Колькі даваць на дзесяціну пад усялякія расьліны?**

Гэта залежыць ад таго, колькі фосфарнага квасу ёсьць у тамасоўцы: калі 13—15%, то пад азіміну і ярыну з канюшынай — па 24—30 пудоў; пад ярыну, бульбу і стручковыя — па 18—24 пуды на дзесяціну. На сенакосы — па 24—36 пудоў. Пры тамасоўцы-жа многапрацэнтнай (калі ёсьць у ёй больш фосфарнага квасу) порцыі гэтыя для рассыпкі трэба паменшыць.

**У якім часе і як расьсяваць?**

Рассыпаць за 1—2 тыдні перад сяўбой збожжа, прыкрыўшы спранжыноўкай, ці простай бараной на 4—5 цаляў глыбіні. Ня сейма тамасоўкі разам з гноем, ні з супэрфасфатам. Каб вецер не разносіў пры сяўбе тамасоўкі, трэба перад высевам зьмяшаць яе з сырым торфам, мокрай зямлёй, ці проста змачыць яе вадой. Лежачы ў вільготным мейсцы, ці на зямлі, можа скамянець, як цэмэнт.

#### V. Супэрфасфат.

**На якую зямлю?**

На зямлю гліністую і пясчана-гліністую, добра выробленую. Ня варта ўжываць яго ані на пяскі, ані на сырыя, халодныя і кіслыя землі.

**Пад якія расьліны?**

Пад усялякія расьліны, а найбольш—пад азімыя.

**Колькі даваць на дзесяціну пад усялякія расьліны?**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Супэрф. | у 13—14% | па 12—24 | пуд. |
| „ | „ 17—19% | „ 9—12 | „ |
| „ | „ 20% | „ 7— 9 | „ |

Пад збожжа каласавое, ярыну з канюшынай і лубін (пад загорку) — па 12—24 пудоў; пад бульбу 12—18 пудоў на дзесяціну.

**У якім часе і як рассыпаць?**

Расьсяваецца за некалькі дзён перад сяўбой, або і разам з зернем і запрываецца драпачом, ці бараной. Ня можна мяшаць з вапнай і тамасоўкай; мяшаць-жа з другімі гнаямі—ня шкодзіць.

**Дзе купляць фабрычныя гнаі?**

Каб купляючы гэтыя парашкі, не ашукацца і ня купіць замест добрых, якіх фальшывых, каторых ёсьць многа ў прадажы, трэба іх купляць толькі ў складох гаспадарскіх супалак, у таварыствах гаспадарскіх, або ў гэтакіх купцоў, што іх добра знаюць і вераць у іх сумленнасьць.

## Нібыта фэльетон, але праўдзівае здарэньне

(Пісьмо з заграніцы).

Прыляцелі гусі  
Ды з Белае Русі,  
Селі каля броду,  
Скалыхнулі воду...

Ня гусі, але блізкія сародзічы іх прыляцелі з нашае Бацькаўшчыны ў сталіцу Чэхаславакіі, Прагу, і „скалыхнулі“ (зварушылі) ня толькі воду, але і думкі Пражакоў. Каб усё гэта было зразумела пачну з геаграфіі і экономікі, а закончу прыродаведай.

Цераз сярэдзіну галоўнага чэскага места Прагі цячэ досыць вялікая рака Влтава. Яна ў самой Праве шырокая, да $^3/_4$ кілямэтра, але ня глыбокая. Дзеля таго, каб паднясьць ваду для плаваньня параходаў і каб пабудаваць пры берагох водныя млыны, пароблены цераз усю раку запруды (езы) да 4-х мэтраў вышыні з варотамі (шлюзамі) для пропуску плытоў і параходаў. Вада бурліць цераз езы і вароты, як на вадападах і там усю зіму не замярзае. Набярэжныя Влтавы служаць для праскай публікі любімымі праменадамі.

Вось зімою 1926/27 г. Чэхі першы раз убачылі на сваёй мілай Влтаве дзіўную навіну. Паявілася на шлюзах некалькі пар дзікіх качак. Цікавасьць яшчэ пабольшылася, калі на зіму 1927/28 г. прыляцелі туды іх цэлыя сотні і плавалі пад езам; было іх аж чорна. Многатысячная публіка, спацэруючы па набярэжных, глядзела і дзівілася „адкуль узялося такое зьявішча“.

Дасужыя рэпарцёры праскіх газэт, ня ведаючы, што сказаць, сталі пісаць зацемкі алегарычнага і іранічнага характару, прыраўніваючы зьявішча да прэсы і тэлеграфных агентур, напрыклад: „хто найбольш пускае „качак“ (плётак) і г. д. Нарэшце газэта „Tribuna“ аднеслася важней і 21.I. 28 г. напісала:

„У гэту зіму наша Влтава мае годных увагі гасьцей. Аднекуль прыляцелі ў вялікім ліку дзікія качкі і аселі на вадзе каля езу, недалёка Славянскай выспы. Як ведама, раней там ніколі ня было і сьледу іх. Толькі цяпер месца каля Нова-Мястовых млыноў сталася папулярным паміж дзікімі качкамі. Што прымусіла іх шукаць гэтае месца? Хто сказаў ім аб ім? Хіба дзікія качкі маюць сваё інфармацыйнае бюро і іх праспэкты горача рэкамендуюць Влтаўскі ез для зімняга прабываньня ў адпаведных кліматычных варунках. Гэтакую роскаш можа пазволіць сабе толькі качачая буржуазія, якая жыве ў добрабытных умовах. Або, наадварот, можа гэтыя качкі належаць да пралетарскай клясы і цяжкія варункі жыцьця прымусілі іх зьмяніць старое месца на новае. Былі-б мы вельмі ўдзячны п. п. прыродазнаўцам, каб яны сказалі нам што-небудзь аб гэтым цікавым зьявішчы“.

На гэтакі заклік аўтар гэтага пісьма, знаючы добра Заходнюю Беларусь і ведаючы, што там цяпер робіцца, даў адказ, які газэта ў сваім уводзе „Адкуль паходзяць дзікія качкі на Влтаве“ нашла „цікавым“ і які быў надрукаваны ў № 22 „Tribuny“ ад 26.I. 1928 г. Вось ён:

### Качкі эмігранты.

„Зімою ў лесе заўсёды цяплей, чым у полі. Там дзе вялікія пушчы, крыніцы, дрыгвы і шмат сьнегу—зямля пад сьнегам не замярзае. У такіх мясцох паміж лесу на рэках, дзе вада быстра цячэ, робяцца водныя прагаліны, званыя „апарынамі“, якія пры найбольшым марозе (да 25° С.) не замярзаюць; з іх выходзіць пара, падобная дыму, ці імгле. Рыба пад лёдам шукае такія месцы, каб магла свабодна дыхаць, шукаюць іх і дзікія качкі, каб зімою маглі плаваць і мець дастатак стравы—дробнай рыбы. Выдра, якая рыбаю корміцца, стала наведываць такія месцы. Любіць іх таксама і бабёр, як сваю вячэрнюю прамэнаду, каб у часе захаду сонца мог трохі паплаваць.

Найбольшымі лясамі ў Эўропе да апошніх гадоў былі дзьве беларускія пушчы, гэта: Белавеская пушча, каля 1000 квадр. кілямэтраў, і Налібоцкая пушча—500 кв. кілямэтраў. Абедзьве гэтыя пушчы мелі шмат такіх „апарын“ на раках Нёману (Топалі, Рапы і г. д.), Нарачы і іншых раках, на якіх праз цэлую зіму трымаліся дзікія качкі.

Цяпер Налібоцкая пушча зусім зьнішчана, а з Белавескай пушчы асталіся толькі малыя забыткі. Там, дзе раней ніхто ня бываў, апрача лясной стражы, дзе вадзіліся зубры, мядзьведзі і лосі—асталіся пустыя пасекі. Зямля прамерзла, пазамярзалі і апарыны. Згінулі вялікія зьвяры, згінулі бабры і выдры, згінулі таксама і дзікія качкі, якія нашлі сабе прыпынак на зіму на Влтаве, каля праскіх езаў, дзе вада не замярзае, як у апарынах, з тою аднак розьніцаю, напэўна, што менш маюць корму і церпяць голад.

Гэтых качак пасьцігла тая самая злая доля, што і іншых беларускіх*) эмігрантаў“.

Такім чынам публіка даведалася як аб паходжаньні качак, так і аб прычыне, прымусіўшай іх на такое „перасяленьне“. Трэба яшчэ зазначыць, што, прыляцеўшы з глухіх і ціхіх мясцоў у цэнтр вялікага і шумнага места, качкі хутка прывыклі да новага жыцьця. Бачачы кожны дзень тысячы людзей зблізка і тое, што іх ніхто не страляе і ня ловіць (гэта строга забаронена), яны хутка асвоіліся і не баяцца. Але, калі часам пара качак адляціць з Прагі за места, дык там становяцца вельмі асьцярожнымі і не дапусьцяць чалавека блізка да сябе.

**Занямонец.**

Прага, 20.II. 1928 г.

**Ад Рэдакцыі:** Шчыра дзякуем за Вашую працу.

*) Газэта надрукавала „рускіх“.

Рэдактар і выдавец А. Герасімчук. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.